*У выхадныя чакаецца халоднае надвор'е: днём тэмпература будзе ад 5⁰С, месцамі чакаюцца слабыя замаразкі ад нуля да -2⁰С.*

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**


№ 78 (4433)

4 кастрычніка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

спецвыпуск

**НЕ смяротнаму пакаранню!**

СТАТЫСТЫКА

## Больш за паўмільёна беларусаў знаходзяцца за мяжой беднасці



Нядаўна Белстат апублікаваў «Статыстычны штогоднік», у якім сабраны падрабязныя дадзеныя па ўсіх сферах жыцця беларусаў – аб занятасці, узроўні жыцця, адукацыі, здароўі, сацыяльным забеспячэнні, правапарушэннях і г.д. Лічбы падаюцца ў параўнанні з мінулымі гадамі, таму інфармацыя выглядае досыць цікавай.

Так, напрыклад, аказваецца, у Беларусі да гэтага часу досыць шмат людзей, якія жывуць за мяжой беднасці, – узровень іх сярэднедушавых наяўных рэсурсаў ніжэйшы за бюджэт пражытачнага мінімуму (БПМ). Такіх беларусаў летась было больш за паўмільёна – 511,5 тысячы чалавек (5,6% ад агульнай колькасці насельніцтва). БПМ у 2018 годзе складаў усяго толькі 210,6 рубля. Але гэты леташні паказчык некалькі лепшы за той, які назіраўся ў 2017 годзе, – тады за мяжой беднасці апынуліся 5,9% жыхароў краіны (528,1 тысячы чалавек). А найгоршы паказчык за апошнія восем гадоў зафіксаваны ў 2011 годзе, калі за мяжой беднасці жылі ажно 655,5 тысячы чалавек, альбо 7,3% ад агульнай колькасці насельніцтва.

Ёсць у статыстыцы, якая вызначае ўзровень жыцця, яшчэ адзін паказчык – колькасць насельніцтва з узроўнем сярэднедушавых наяўных рэсурсаў ніжэй мінімальнага спажывецкага бюджэту. Гэта тыя, хто не можа дазволіць сабе набыць тавары і паслугі для задавальнення асноўных патрэб –менавіта з такіх патрэб і складаецца мінімальны спажывецкі бюджэт, які штогод вызначае ўрад. Летась у Беларусі ён складаў 344 рублі. І летась наяўныя рэсурсы 2,6 мільёна беларусаў не дасягалі гэтага паказчыка. У 2017 годзе такіх беларусаў было яшчэ больш – 3,1 млн чалавек, – і гэта быў самы высокі паказчык за папярэднія восем гадоў.

**Іван ШЫРОКІ.**

ДАРЭЧЫ

### Больш звальняецца, чым працаўладкоўваецца

Менавіта такая тэндэнцыя назіраецца ў Беларусі апошнія тры гады. Згодна з апублікаванымі дадзенымі, найбольшы адток кадраў назіраецца ў сельскай, лясной і рыбнай гаспадарках, а таксама ў будаўніцтве і адукацыі. Напрыклад, у 2018 годзе ў сістэму адукацыі прыйшлі працаваць 88,7 тысячы чалавек, а звольніліся – 91,4 тысячы. У будаўніцтве гэты разрыў яшчэ большы: прынята на працу 93,2 тысячы, звольніліся – 97,4 тысячы чалавек.

Дарэчы, «Статыстычны штогоднік» складзены так, што немагчыма адсачыць перасоўванне кадраў у ахове здароўя: складальнікі чамусьці аб'ядналі ахову здароўя і сацыяльныя паслугі ў адзін паказчык. І такім чынам атрымалася, што ў цэлым у гэтых дзвюх сферах адтоку кадраў не назіраецца, там больш людзей прымаюць на працу, чым звальняюць. Хаця ўсім вядома, што на рынку працы ўрачы і медсёстры ў топе самых запатрабаваных вакансій ужо не першы год.

ВЫБАРЫ-2019

## Участковыя камісіі без апазіцыі

*У склад участковых выбарчых камісій, якія ўтвораны ў чатырох акругах на тэрыторыі Гродна, увайшлі толькі дзевяць прадстаўнікоў адной партыі. Але не апазіцыйнай.*

У Гродне сфарміраваны 128 выбарчых участковых камісій: 64 у Ленінскім раёне і 64 у Кастрычніцкім. Колькасць членаў камісій у Ленінскім раёне – 926, у Кастрычніцкім – 904. Пераважная большасць сяброў камісій – прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, працоўных калектываў і вылучэнцы па заяве выбаршчыкаў.

Сярод 1830 членаў камісій толькі дзевяць прадстаўнікоў Камуністычнай партыі Беларусі з 16, якіх яны вылучалі. Партыя БНФ вылучыла 32 прэтэндэнты ў члены выбарчых камісій, але іх пратаколы нават не разглядаліся падчас пасяджэнняў гарадскіх адміністрацый. Было аб'яўлена, што ў іх не ўказаны нумары акруг, у якія вылучаліся прадстаўнікі партыі.

На пасяджэнні адміністрацыі Ленінскага раёна прысутнічаў праваабаронца **Віктар Сазонаў**. Яго моцна ўразіла тое, што ўчастковыя камісіі застаюцца без сяброў палітычных партый, якія ў любой краіне з'яляюцца галоўнымі суб'ектамі палітычнага жыцця і, канешне, выбарчых кампаній.

*"На жаль, на гэтым этапе выбараў няма прыкмет таго, што яны пройдуць адкрыта і празрыста, – усё паўтараецца, як і ў мінулыя гады,* – з жалем заўважае спадар Віктар. – *Актыўных членаў палітычных партый адкідваюць убок, а ў камісіях будуць сядзець прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, якіх у палітычным жыцці краіны мы не бачым і не ведаем".*

Праваабаронца **Раман Юргель**, які прысутнічаў падчас фарміравання ўчастковых камісій у адміністрацыі Кастрычніцкага раёна, таксама заўважае, што ніякіх істотных змен у выбарчай кампаніі на дадзеным этапе не заўважае.

*"Я, дарэчы, узяў мінулагоднюю газету і паглядзеў, наколькі супадаюць прозвішчы сяброў участковых камісій, якіх вылучалі на мінулых выбарах і на цяперашніх. Аказалася – 89 працэнтаў супадзенняў. Дык які тады давер да выбараў?"* – задаецца пытаннем праваабаронца.

Юргель дадае, што, хутчэй за ўсё, гэта і з'ўляецца асноўнай прычынай таго, што ніводная з палітычных партый у Гродне, акрамя ПКБ і Партыі БНФ, не вылучалі сваіх прэтэндэнтаў у члены ўчастковых камісій.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

Падчас падрыхтоўкі матэрыялу да друку стала вядома, што і ў Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці падчас фарміравання ўчастковых камісій у іх склад не патрапіў ніводзін член апазіцыйнай партыі.

*Традыцыйна з 5 па 10 кастрычніка ў Беларусі праходзіць Тыдзень супраць смяротнага пакарання. Лозунг сёмага Тыдня – "Правасуддзе без забойства". Кампанія "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання" прапануе наступную афішу мерапрыемстваў.*

### 5 кастрычніка

**Мінск. Фестываль "Рок за жыццё"**. У гэтым годзе ў падтрымку ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне выступяць знакамітыя беларускія гурты: **Nizkiz**, **Крама**, **"РСП"**, **Re1ikt** і **Luty Sakavik**.

Фестываль адбудзецца ў мінскім клубе RE:PUBLIC па адрасе: вул.Прытыцкага, 62 (ст.м. "Кунцаўшчына"). **Пачатак у 18.00**.

### 6 кастрычніка

**Магілёў. Фестываль "Рок за жыццё"**. Музыкі (**"Петля Пристрастия", "РСП", Re1ikt, Luty Sakavik**) выступяць у мясцовым клубе "Cuba" па адрасе: вул.Першамайская, 29. **Пачатак у 18.00**.

**Мінск.** Прагляд легендарнай кінастужкі польскага рэжысёра Кшыштафа Кяслёўскага "Кароткі фільм пра забойства". Дэманстрацыя суправаджаецца беларускамоўнымі цітрамі. Прагляд адбудзецца на пляцоўцы "Тэрыторыя правоў" (вул.Ложынская, 16–404). **Пачатак у 18.00**.

### 7 кастрычніка

**Мінск.** Размова пра смяротнае пакаранне ў Клубе англійскай мовы пра правы чалавека. Мерапрыемства адбудзецца на пляцоўцы "Тэрыторыя правоў" (вул. Ложынская, 16–404). **Пачатак у 19.00**.

### 8 кастрычніка

**Мінск.** Ларп з Жывой бібліятэкай на тэму "Смяротнае пакаранне ў Беларусі". Мерапрыемства адбудзецца на пляцоўцы "Тэрыторыя правоў" (вул.Ложынская, 16–404). У ларпе возьмуць удзел эксперты кампаніі супраць смяротнага пакарання ў Беларусі, якія дапамогуць перад гульнёй паглыбіцца ў кантэкст выканання смяротных прысудаў.

Удзел бясплатны, але трэба зарэгістравацца. **Пачатак у 18.00**.

### 9 кастрычніка

**Мінск:**

– івэнт Задзіночання беларускіх студэнтаў з удзелам эксперта кампаніі супраць смяротнага пакарання **Валянціна Стэфановіча** на "Prastora ZBS";

– літаратурная вечарына "Нельга забіць: смяротнае пакаранне і беларуская літаратура" з пісьменнікамі-падпісантамі Петыцыі супраць смяротнага пакарання. Мерапрыемства адбудзецца ў Беларускім ПЭН-цэнтры па адрасе: вул.Залатая Горка, 2–101. **Пачатак у 19.00**;

– маладзёжныя дэбаты "ДысКУТ", HIDE (вул.Кастрычніцкая, 19/4).

**Гродна.** Прагляд дакументальнага фільма з Watch Docs Belarus «Курумім». Пасля прагляду будзе абмеркаванне фільма з каардынатарам кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання" **Андрэем Палудам**. Адрас: "Цэнтр гарадскога жыцця" (вул.Кірава, 3). Уваход вольны. **Пачатак у 18.30**.

### 10 кастрычніка

**Мінск.** Паказ дакументальнага фільма "Свободные люди" ад Амбасады Швейцарскай Канфедэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь у кінатэатры "Піянер" па адрасе: вул.Энгельса, 20 (ст.м. "Кастрычніцкая/Купалаўская"). **Пачатак у 18.30**.

Фільм на англійскай мове з рускімі субцітрамі. Уваход вольны, выдача квіткоў будзе адбывацца за 1 гадзіну да пачатку сеанса.

Апроч усяго, плануецца раздача ў Мінску і рэгіёнах спецыяльнага выпуску газеты "Народная Воля" пра смяротнае пакаранне ў Беларусі.

**Сачыце за афішамі асобных мерапрыемстваў на сайце spring96.org.**

ПАЗІЦЫЯ

Крысціна ЮХАНЕСАН,
Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь:

## «Смяротнаму пакаранню не месца ў сучаснай прававой практыцы»

Да кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» працягваюць далучацца ўсё новыя людзі – людзі розных прафесій, заняткаў і інтарэсаў: праграмісты, артысты, вайскоўцы, навукоўцы і шмат-шмат іншых. Сярод афіцыйных асоб, хто нядаўна падтрымаў адмену смяротнай кары і падпісаў петыцыю, – амбасадар Швецыі ў Беларусі **Крысціна Юханесан.**

– Я з задавальненнем далучаюся да гэтай кампаніі, як і да іншых кампаній супраць смяротнага пакарання, – паведаміла яна.

Спадарыня амбасадар распавяла, што Швецыя разам з Еўрапейскім Саюзам выступае супраць смяротнага пакарання:

– Мы заўсёды будзем лічыць, што смяротнае пакаранне рызыкуе зрабіць наша грамадства больш жорсткім. Гэта негуманная, бесчалавечная мера пакарання, якой няма месца ў сучаснай прававой практыцы.

Крысціна Юханесан выказала ўдзельнікам і ўдзельніцам кампаніі сваю асабістую падтрымку і спадзяванне, што ў Рэспубліцы Беларусь будзе нарэшце адменена смяротнае пакаранне.

– Лічу, што рызыка вынясення судом неабгрунтаванага і няправільнага рашэння, на падставе якога чалавек можа быць пазбаўлены жыцця, ужо кажа супраць смяротнага пакарання.

Амбасадар адзначыла, што для таго, каб адмяніць смяротнае пакаранне, Швецыя не праводзіла ніякіх рэферэндумаў:

– Дэбаты супраць смяротнага пакарання ў Швецыі вяліся яшчэ ў сярэдзіне XIX веку, адразу пасля ўвядзення прынцыпу гуманізму. Наша краіна адмяніла смяротнае пакаранне ў мірны час, у 1921 годзе. Апошні чалавек быў пакараны смерцю ў 1910 годзе.

Крысціна Юханесан падкрэсліла, што Швецыя заўсёды актыўна выступала за правы чалавека як у Рэспубліцы Беларусь, так і ў іншых краінах. І яна гатова і надалей далучацца да розных беларускіх акцый у абарону правоў чалавека.

**Дзіяна ПІНЧУК.**


Матэрыялы спецвыпуску чытайце на 5-й і 6-й старонках.


БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

## Федерика Могерини не приедет в Минск

*Верховный представитель ЕС по иностранным делам и политике безопасности Федерика Могерини в последний момент отменила визит в Минск для участия во встрече высокого уровня в рамках «Восточного партнерства».*

В календаре Европейской комиссии поездка в Минск Верховного представителя ЕС уже не значится. В представительстве ЕС в Минске Reform.by не смогли оперативно прокомментировать этот факт.

Федерика Могерини планировала 4 октября встретиться с премьер-министром Беларуси Сергеем Румасом, а 5-го – с президентом Беларуси Александром Лукашенко. Вчера стало известно, что встречи не состоятся.

– С сожалением сообщаем, что визит Федерики Могерини, Верховного представителя Европейского Союза по иностранным делам и политике безопасности, а также встреча высокого уровня в рамках «Восточного партнерства», ранее запланированные на 4–5 октября 2019 года в Минске, откладываются из-за ряда изменений в повестке дня различных участников и по результатам обсуждений с Беларусью как принимающей стороной, – говорится в сообщении представительства ЕС в



Facebook.

Ранее предполагалось, что во время визита Могерини будет подписано соглашение ЕС с Беларусью о реадмиссии и упрощении визового режима, которое предполагает снижение стоимости шенгенской визы для граждан нашей страны с 60 до 35 евро.

ЧУЛІ?

## Адслужыў – атрымай ільготы

*Грамадзяне, якія прайшлі тэрміновую ваенную службу, атрымалі шэраг новых ільгот.*

Як паведамляе прэс-служба Міністэрства абароны, пасля тэрміновай службы ў войску за грамадзянінам на працягу трох месяцаў захоўваецца працоўнае месца або даецца раўнацэнная пасада. Прычым захаваць сваё працоўнае месца работнік зможа нават у прыватнага ўласніка.

Акрамя таго, тыя, хто адслужыў у войску, атрымаюць першачарговае права на інтэрнат. Гэта закране навучэнцаў і студэнтаў. Каб атрымаць інтэрнат у першую чаргу, ім спатрэбіцца рэкамендацыя на навучанне з вайсковай часці.

Міністэрства абароны прапанавала шэраг іншых сацыяльных гарантый для тых, хто прайшоў тэрміновую службу ў войску. Напрыклад, гэта выбар месца размеркавання пасля навучання, бясплатнае навучанне на падрыхтоўчых курсах, перавага пры залічэнні пры роўных балах.

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Без боли...

*От хронических болей страдает около 20% взрослых людей. Сегодня медики выделяют хроническую боль в самостоятельное заболевание, которое требует особого подхода.*

– Почему нельзя жить с постоянной болью?
– Как долго можно терпеть боль?
– Какие методы лечения синдрома хронической боли есть в арсенале современной медицины?
– Что делать при хронических болях в позвоночнике, шее, конечностях?
– Как помочь себе при головных болях?

На эти и другие вопросы ответит невролог, заведующий неврологическим отделением «ЛОДЭ» **Андрей Дмитриевич ВЫСОТСКИЙ.**

Звоните **в пятницу 11 октября с 12.00 до 13.30 по телефону 328-68-41.**

Присылайте свои вопросы заранее по почте или на электронный адрес: **nvonlineinfo@gmail.com** с пометкой «Прямая линия».

Народная Воля http://www.nv-online.info
4 КАСТРЫЧНІКА 2019 г.

СІТУАЦЫЯ

## Сяргей ПЯТРУХІН: «Дзе я ім знайду 9 тысяч долараў?»

*Брэсцкі блогер распавёў “Народнай Волі”, што за нявыплату штрафу яму пагражаюць альбо крымінальнай справай, альбо накіраваннем на грамадскія працы.*

Нагадаем, што 18 красавіка суд Ленінскага раёна г.Брэста вынес прысуд па крымінальнай справе супраць блогера **Сяргея Пятрухіна.** Яго прызналі вінаватым па ч.2 арт.188 (“Паклёп”) і ч.2 арт.189 (“Абраза”) Крымінальнага кодэкса Беларусі. Брэсцкі абласны суд пакінуў рашэнне раённага суда.

Блогера пакаралі штрафам у памеры 360 базавых велічынь (9180 рублёў, ці 4381 долар). Пятрухіна абавязалі таксама выплаціць маральную шкоду пацярпелым супрацоўнікам Ленінскага РУУС г.Брэста – 8500 рублёў, ці 4250 долараў. Усяго Пятрухін абавязаны выплаціць каля 9 тысяч долараў.

– Нядаўна *я атрымаў ліст-папярэджанне* з аддзела прымусовага выканання Ленінскага раёна Брэста, – кажа Сяргей Пятрухін. – Мне прапанавалі да 30 верасня прадаставіць звесткі аб аплаце штрафу ў поўным аб'ёме. Нагадалі, што ў адваротным выпадку могуць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці за ўхіленне ад выплаты штрафу альбо заменяць штраф грамадскімі працамі.

**– Вы нешта ўжо заплацілі?**

– Так, каля тысячы рублёў на пагашэнне штрафу сабралі сябры, кожны месяц крыху пералічваю і я. Але, натуральна, у адзін момант заплаціць такую вялікую суму я не магу. Дзе я ім знайду 9 тысяч долараў?

І зусім не разумею, калі мне пагражаюць крымінальнай адказнасцю. Я ж не ўхіляюся ад выплаты штрафу. Выплачваю, колькі магу, нідзе не хаваюся. Калі ж суддзі, прызначаючы такія вялізныя сумы, думаюць, што беларусы тысячы долараў у месяц атрымліваюць, то няхай апусцяцца з нябёс на грэшную зямлю. Паўтаруся: буду плаціць штраф па столькі, па колькі змагу.

Дарэчы, да мяне ўжо прыходзілі дадому, апісалі маёмасць. Праўда, пакуль нічога не забралі.

**– Калі штраф заменяць на грамадскія працы?..**

– Я буду гэтаму толькі рады. І вялізныя грошы не трэба будзе плаціць, і падрыхтую матэрыял для чарговага відэаблога…

**Віктар ШПАК.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Сяргей ВАРЫВОДА: «Тут ёсць свае плюсы і мінусы…»

*Намеснік старшыні Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі пракаментаваў “Народнай Волі” ініцыятыву, згодна з якой дарожны падатак не будзе прывязаны да тэхагляду транспартнага сродку.*

Нагадаем, што дзяржаўная пошліна за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху была ўведзена ў Беларусі з 2014 года.

Гэта норма выклікала мноства нараканняў з боку аўтамабілістаў. Вадзіцелі, якія рэдка карыстаюцца сваімі машынамі, скардзіліся, што плаціць ім трэба гэтак жа, як і тым, хто ездзіць штодзень. Таму многія падлічылі: лепш заплаціць штраф за тое, што не прайшоў тэхагляд (а без квітанцыі аб аплаце дарожнага падатку яго не пройдзеш), чым штогод плаціць вялікія сумы.

Як стала вядома, зараз Міністэрства фінансаў рыхтуе праект указа прэзідэнта, які прадугледжвае, што дзяржпошліна не будзе прывязана да тэхагляду. Таксама дарожны збор можна будзе плаціць па месяцах, а не за год ці два наперад, як гэта адбываецца зараз.

Плануецца, што плата будзе ўносіцца грамадзянамі па заяўным прынцыпе на падставе таго, колькі часу яны плануюць выкарыстоўваць свой транспартны сродак у дарожным руху.

Напрыклад, калі вадзіцель не будзе карыстацца машынай у зімовы перыяд, то і не будзе плаціць дарожны збор за гэты час. Разам з тым грамадзяне, якія цэлы год выкарыстоўваюць транспартныя сродкі, будуць плаціць пры ўліку паніжаючага каэфіцыента 0,8 (калі яны адначасова будуць уносіць плату за 12 і больш месяцаў запар).

– Гэтая ідэя не новая, і тут ёсць як свае плюсы, так і мінусы, – кажа **Сяргей ВАРЫВОДА.** – Нехта лічыць, што гэта ўдарыць па менш забяспечаных грамадзянах, хтосьці маркуе, што такім чынам выправіцца сітуацыя са спраўнымі транспартнымі сродкамі на дарогах. Праўда, трэба дачакацца, калі мы ўбачым канчатковы варыянт праекта.

**– Наколькі вядома, вы былі прыхільнікам таго, каб дарожны збор быў уключаны ў кошт паліва…**

– Так. Калі забяспечаныя людзі больш карыстаюцца аўтамабілямі, значыць, больш купляюць паліва. Таму на іх у асноўным і ўскладзецца б нагрузка, якая звязана з выплатай збору.

Але мінус заключаецца ў тым, што ў гэтым выпадку паліва падаражэе, хаця яно і так не таннее. Я лічу, калі коштаўтварэнне на паліва будзе ўключаць і гэты збор, то наўрад ці гэта істотна паўплывае на кошт паліва. Мне падаецца, што гэта было б больш справядлівым. Формула ж простая: больш ездзіш – больш плаціш.

**– Дарожны збор існуе ўжо пяць гадоў. На ваш погляд, ці апраўдаў ён сябе за гэты час?**

– Мы разумеем, што сродкі ад гэтага падатку павінны ісці на будаўніцтва і рамонт дарог, і гэта як быццам нядрэнна. Іншая справа: як суаднесці аб'ём адрамантаваных дарог і сумы, якія аўтааматары заплацілі са сваёй кішэні? Асабіста я не бачыў справаздачы, дзе было б абсалютна празрыста бачна, як канкрэтна размяркоўваліся атрыманыя ад дарожнага збору грошы.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



СКАНДАЛ

# Компрометация кандидата?

*Накануне парламентских выборов активиста из Островца Ивана Крука обвинили в изнасиловании.*

Крук на предстоящих выборах намерен баллотироваться в депутаты Палаты представителей по Сморгонскому избирательному округу №59, в который входят два района – Островецкий и Сморгонский.

Свою инициативную группу в окружной избирательной комиссии он зарегистрировал 13 сентября. А 26 сентября на сайте, где нет никаких выходных данных, то есть не известно, кто его издает, появился видеосюжет о кандидатах в депутаты от демократических сил под общим заголовком «Политические конфузы с эротическим подтекстом» и публикация «Оборотень в погонах, или Почему кандидат в депутаты Иван Крук все еще на свободе». Анонимный автор обвиняет Крука в изнасиловании, а местную милицию – в бездействии. Мол, Крук изнасиловал свою знакомую, та обратилась в милицию, а наказывать *«виновного не спешат, ощущение, что хода делу не дают».*



Что же это за история такая вышла?

Оказывается, заявление об изнасиловании на Ивана Крука еще в мае подала его знакомая, жительница деревни Филипаны Островецкого района Галина Прошкина. Знакомы они 25 лет, Иван Федорович не раз оказывал ей правовую помощь: Крук – юрист по образованию, бывший работник милиции, работавший на оперативно-следственных должностях. В 1994 году он ушел на пенсию по выслуге лет.

*– 10 мая я действительно был дома у Прошкиной, она попросила помочь ей составить жалобу на постановление об отказе в возбуждении уголовного дела в отношении ее соседки, которое было вынесено Островецким РОВД. Находился в доме Прошкиной около трех часов. Не отрицаю: немножко выпил, и даже случился легкий флирт. Но, конечно, никакого изнасилования быть не могло. Мне уже 74 года! Но Прошкина в этот же вечер, когда я уже пришел домой, стала меня шантажировать: позвонила по телефону и сказала, что будет писать заявление в милицию о том, что я ее изнасиловал. Я сначала подумал, что это шутка, сказал ей: мол, что ты за ерунду несешь, я завтра заеду, поговорим. Она, не дослушав, бросила трубку. На следующий день я поехал к ней, но она сразу же заявила: давай мне 20 тысяч евро или расписку, что обязуешься дать мне такую сумму, иначе буду писать заявление в милицию об изнасиловании.*

*«Никакого изнасилования не было», – сказал я и уехал домой. Но шантаж продолжался. 11 мая Прошкина по домашнему телефону позвонила моей жене, Ольге Крук, и заявила: сейчас приедет милиция и наденет на твоего Федоровича наручники.*

Еще через день, 13 мая, Прошкина написала заявление в милицию. В своем обращении она утверждала, что Крук не только ее изнасиловал, но и причинил телесные повреждения. Заявление Прошкиной было передано в Следственный комитет Островецкого района, который и проводил проверку. Длилась проверка, к слову, около трех месяцев, был проведен ряд судебно-медицинских экспертиз. 13 августа Следственный комитет постановил: в возбуждении уголовного дела по факту совершения Круком И.Ф. преступления, предусмотренного стст.166, 167 УК РБ, в отношении Прошкиной Г.В. отказать за отсутствием состава преступления.

Казалось бы, неприятный инцидент исчерпан. Иван Крук постарался о нем забыть.

Но почему-то сейчас, когда началась предвыборная кампания в парламент, в интернете – не исключено, с чьей-то подачи – появилась анонимная заметка о «бывшем милиционере-насильнике».

– Островец – город небольшой, – говорит Иван Крук. – *Когда Прошкина только написала заявление об изнасиловании, все тут же об этом узнали. Все же, без ложной скромности, я фигура публичная. В 1995–1999 годах был депутатом Островецкого районного Совета депутатов. Три раза баллотировался в Палату представителей от Объединенной гражданской партии. Занимаюсь общественно-политической и правозащитной деятельностью в районе. Сейчас по моим заявлениям отдел по борьбе с организованной преступностью и коррупцией по Гродненской области МВД проводит проверку в отношении бывшего председателя Островецкого райисполкома, депутата Палаты представителей Адама Ковалько.*

*Когда пошли разговоры о заявлении Прошкиной в милицию, мне звонили жители города и говорили прямо: Иван Федорович, вас хотят морально сломать, дискредитировать перед жителями района и страны за вашу бескомпромиссную борьбу с коррупцией, говорили, чтобы я это дело так не оставлял, обращался в компетентные государственные органы по поводу привлечения Прошкиной к уголовной ответственности. Действительно, это был сильный стресс, я очень болезненно на него реагировал, даже неделю провел в больнице. Решил: не позволю, чтобы меня так оскорбляли.*

*Я написал жалобу на имя прокурора Гродненской области, три заявления на имя прокурора Островецкого района для восстановления законности и справедливости и наконец открытое заявление прокурору Островецкого района, которое поддержали почти 50 жителей Островца – поставили свои подписи под этим заявлением. К слову, люди до сих пор обращаются ко мне – уже более 80 подписей.*

*В своих заявлениях я требовал возбудить в отношении Прошкиной уголовное дело за клевету и заведомо ложные показания. Но мне отказали. Возможно, имеются покровители, которые использовали Г.В.Прошкину против меня. Решил и дальше отстаивать свои честь, достоинство и деловую репутацию, буду обращаться в суд. Тем более что сейчас в интернете публикуются обо мне гнусные провокации. А значит, еще рано ставить точку в этой нелицеприятной истории.*

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

РЭГІЁН

## У Гродне пашыраюць выкарыстанне электронных жыровак

*Да канца гэтага года гродзенскія ўлады плануюць давесці колькасць электронных жыровак да 10 тысяч.*

Зараз у Гродне толькі 4% жыхароў, трохі больш за 3000 уласнікаў кватэр, карыстаюцца паслугай “электронная жыроўка”, астатнія, як і раней, атрымліваюць папяровыя рахункі за камунальныя паслугі.

Зараз у горадзе 160.868 асабовых рахункаў уласнікаў кватэр. Штомесяц на выраб папяровых жыровак з бюджэту траціцца амаль чатыры тысячы рублёў.

Гарадскія ўлады ўжо распрацавалі некалькі шляхоў пераходу на электронныя жыроўкі. Перавага такога спосабу паведамлення ў тым, што звесткі аб аплаце ЖКП трапляюць да спажыўцоў раней, чым у папяровым выглядзе, таксама заўсёды можна паглядзець папярэднія рахункі. А да ўсяго пераход на анлайн-жыроўкі дазволіць сэканоміць паперу.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

КРЫМІНАЛ

## Белорусские таможенники упустили сигареты на полмиллиона долларов

*Контрабанду сигарет в партии дров обнаружили польские таможенники. Стоимость изъятого оценили в почти 550 тысяч долларов.*

Товар везли на грузовике из Беларуси в Польшу через пункт пропуска «Корощин». Польские таможенники заметили коробки при сканировании на рентген-аппарате партии дров. Всего было изъято 158 тысяч пачек сигарет без акцизов, сообщает Государственная фискальная администрация Польши.

Это крупнейшая контрабанда сигарет в текущем году на границе в Люблинском воеводстве и одна из крупнейших в Польше, отмечает сайт naviny.by.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# «Забірайце свае сцягі і ...»

*У цэнтры Гродна прадстаўнікі апазіцыйных партый пад бел-чырвона-белымі сцягамі працягваюць збор подпісаў за вылучэнне прэтэндэнтаў на месца ў парламенце. Здараюцца выпадкі, калі ім спрабуюць перашкодзіць.*

На Савецкай плошчы ў Гродне штодня а 17-й гадзіне вядуць збор подпісаў кіраўнік гродзенскай арганізацыі Партыі БНФ **Вадзім Саранчукоў** і ініцыятыўная група прадстаўніка беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў **Яўгена Дудкіна**.

Звычайныя пікеты праходзяць спакойна, многія гродзенцы цікавяцца ў членаў ініцыятыўных груп ходам выбарчай кампаніі, шмат хто пакідае свае подпісы, нехта завязвае дыскусію, некаторыя проста моўчкі слухаюць.

У мінулы аўторак пікет пачаўся, як звычайна. Адразу да пікетоўцаў падышоў малады чалавек і пачаў патрабаваць, каб прыбралі бел-чырвона-белыя сцягі. Маўляў, іх выкарыстоўвалі калабаранты падчас вайны, а вы тут з імі стаіце!

Пікетоўцы выступленне гэтага чалавека пакінулі без увагі, але ён пачаў хапацца за дрэўка, на якім было прымацавана палотнішча. Праўда, Ежы Грыгенча, які трымаў сцяг, адвёў руку настойлівага хама, і той адчуў, што сілаю нічога не возьме.

– Мы збіраем тут подпісы за вылучэнне прэтэндэнта ў кандыдаты ў дэпутаты на законных падставах, і не перашкаджайце нам, – адказаў нахабніку Грыгенча.

Да маладзёна звярнуўся Вадзім Саранчукоў, паказаўшы на рог дома, які выходзіць на плошчу Савецкую:

– Вось глядзіце: там ёсць камера, і ўсе вашы дзеянні будуць зафіксаваны, а таму адыдзіце ад пікета і не перашкаджайце.

Пасля гэтага маладзён адышоў убок, але працягваў абражаць пікетоўцаў.

– У нас не пройдзе сцэнарый Украіны! Забірайце гэтыя сцягі і едзьце ў сваю гей-Еўропу! – не спыняўся ён.

Аднекуль з'явілася ягоная аднадумніца сярэдніх гадоў:

– Яны хочуць, каб кроў лілася, ім грошы за гэта плацяць. Раз вам тут не падабаецца, то едзьце ў Амерыку, няма чаго тут адурманьваць моладзь! – амаль крычала жанчына.

Праўда, на гэты лямант члены ініцыятыўнай групы ўжо не рэагавалі. Але крыкі і абразы прыцягнулі ўвагу, да пікетоўцаў сталі падыходзіць цікаўныя: заводзілі з імі размовы, ставілі свае подпісы.

Дзве жанчыны пенсіённага веку папрасілі Саранчукова распавесці пра сябе і сваю праграму.

– Пра праграму я пакуль не магу вам нічога сказаць, паколькі гэта будзе парушэннем заканадаўства. А пра сябе… Паводле адукацыі – юрыст. Працую рамеснікам, выпрабоўваю рознага кшталту сувеніры. Жанаты, гадую траіх дзетак.



**На пікеце пад бел-чырвона-белымі сцягамі па зборы подпісаў за вылучэнне прэтэндэнтаў на месца ў парламенце.**

Спадарыні паставілі подпісы, пажадалі перамогі і адышлі.

– І што ўжо тады будзе, калі вы станеце дэпутатам? Ці захаваеце незалежнасць Беларусі або, можа, пойдзеце аб'ядноўвацца з іншымі краінамі? – спынілася яшчэ адна гродзенка.

– Калі мяне зарэгіструюць, тады будзе час на агітацыю, і я аб усім гэтым вам распавяду, – адказаў Саранчукоў.

– Вы цяпер маеце права паставіць свой подпіс за ўсіх вылучэнцаў, каб падчас галасавання было з каго выбраць годнага дэпутата, – патлумачыла жанчына з ініцыятыўнай групы.

Спадарыня працягнула свой пашпарт, паставіла подпіс, пажадала поспехаў і паабяцала абавязкова прыйсці паслухаць Саранчукова падчас агітацыі.

А вось маладых людзей зацікавіла, што гэта за “Каманда'28”?

– У Гродне, адрозна ад іншых рэгіёнаў, прадстаўнікі ўсіх апазіцыйных партый сабраліся ў адну каманду, каб падтрымліваць па адным дэпутаце ў кожнай акрузе. Дзеля перамогі мы вырашылі аб'яднаць сілы апазіцыі, – патлумачыў ім Саранчукоў.

Бліжэй да 18-й гадзіны распачаўся спорны дождж, і пікет пачалі згортваць. Але тут падышоў яшчэ адзін малады чалавек з пашпартам. Нехта з членаў ініцыятыўнай групы пацікавіўся, чаму ён вырашыў падпісацца за вылучэнне іх прэтэндэнтаў.

– У нашай сям'і заўсёды галасавалі за дэмакратычных кандыдатаў. Я памятаю, калі быў яшчэ школьнікам, мае мама і тата аддавалі свой голас за Станіслава Шушкевіча. І я іду іх шляхам, – адказаў малады чалавек.

Ён хуценька паставіў свой подпіс, і на гэтым размова скончылася. Дождж узмацніўся, і пікетоўцаў пакінулі звыклае месца, дзе кожны дзень вядзецца збор подпісаў за вылучэнне іх прэтэндэнтаў.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ПЕРСОНА

## Николай ЛАПАТИК:
# «Мне вообще в жизни повезло»...

*«Народная Воля» поинтересовалась, как живет бывший начальник Главного управления криминальной милиции МВД генерал-майор милиции в отставке Николай Лапатик, чье имя в свое время было на слуху в связи с расследованиями дел о громких исчезновениях.*

**– Николай Иванович, удивилась, когда узнала, что не так давно вас приглашали на семинар по повышению уровню мастерства сотрудников уголовного розыска…**

– А чего удивляться?

**– Какое-то время о вашем существовании старались забыть…**

– Неправда. Всюду меня приглашали. И министры, и начальники уголовного розыска – от Минска до регионов! И я много где был.

**– Значит, ваш профессиональный опыт сегодня востребован?**

– Можно и так сказать.

**– Вам на самом деле есть чему научить сегодняшнее поколение профессионалов? Сейчас ведь куча современных технологий, которые упрощают жизнь сыщика. А в ваше время были только интуиция и профессиональный нюх…**

– Можно передать все нюансы профессии, поделиться всем, что знаешь, но… Есть ли те, кто способен все это взять, перенять, использовать?

И как объяснить какие-то моменты человеку, который сегодня за пару минут делает то, чего я ждал неделями? Поэтому я постоянно подкреплял свою чуйку, как вы говорите…

**– Тем не менее вас все равно зовут делиться секретами мастерства!**

– Я стараюсь подсказать что-то с точки зрения психологии построения нашей работы.

Я был на большом семинаре, где со всей страны собрались ребята из уголовного розыска – всего было около 400 человек. Это уже даже не мои ученики, а ученики моих учеников! Мне понравился семинар, и я благодарен, что мне дали слово, я выступил. Мы очень хорошо с ребятами там поговорили!

**– Сейчас хвалят нового министра внутренних дел Юрия Караева. Другой вопрос – как дальше будет?..**

– Посмотрим…

Быть министром внутренних дел – это очень тяжело. Министр должен напитаться воздухом, которым дышит уголовный розыск, ОБЭП, оперативные и другие службы. Если ты не работал в этой сфере и с трудом постигаешь все это, будет крайне сложно. Нужно быть хорошим менеджером, слушать людей.

Любой министр должен понимать, что инспектор уголовного розыска или оперативный сотрудник – это элита! Это как та виноградная косточка, про которую в известной песне Булата Окуджавы поется. Тот, кто не способен работать в уголовном розыске, рано или поздно уйдет. Сегодня тех, кто имеет большой стаж работы – единицы!

**– Ну, может, что-то в системе и поменяется…**

– Конечно, поменяется!

Я вот анализирую, как мы эти 25 лет прожили. Сегодня в Беларуси многие люди хорошо живут. Зайдешь в магазин – и глаза разбегаются. На улице много дорогих машин, электросамокаты, мотоциклы. Раньше такого и в помине не было!

**– Слов нет, жизнь не стоит на месте...**

– Я помню 1994 год, когда в Могилев только приехал работать. Кругом была нищета… Тогда мертвая страна была. И за 20 лет Беларусь сильно изменилась…

**– Кстати, про Могилев. Николай Иванович, а помните историю со странным убийством могилевского милиционера, которого нашли в лесу с огнестрелом? По официальной версии, это было самоубийство, но мало кто верит в это, отец парня (тоже, кстати, бывший милиционер) настаивает на эксгумации… А какие у вас соображения по этому поводу? Может, вас привлекали в качестве эксперта?**

– Я читал об этом деле, конечно, но ни с кем не разговаривал. Я работал так: если случилось убийство, значит, я должен быть на месте происшествия. Тогда я мог участвовать в раскрытии дела, говорить с людьми. Это принципиальный момент! А так, не представляя места происшествия, не имея представления, как там все развивалось, как добывались данные… Нечего и вступать в полемику по этой теме.

**– Есть ряд уголовных дел, которые вроде бы с точки зрения следователя и суда расследованы. Но общество не верит, что там все на своих местах. Речь в том числе и о громких делах. На ваш взгляд, кто виноват в том, что люди не всегда доверяют следствию?**

– Всегда будут те, кто сомневается. Несмотря на то, что следователи и объясняют все, и интервью дают. Информация есть, но как ее воспринимают люди – это уже другой вопрос…

**– Николай Иванович, а как ваше здоровье?**

– Сейчас все хорошо. Вешу 85 килограммов. Хожу, физически работаю. Самые лучшие врачи – это хирурги.

**– Потому что отрезают все лишнее?**

– Мне очень помог один хирург, я ему бесконечно благодарен. Я проходил традиционную медкомиссию, и во время УЗИ мне сказали: «Николай Иванович, вы на пороге больших неприятностей, надо срочно принимать меры. Аневризма аорты, и если она рванет – моментальная смерть».

Четыре года назад мне сделали операцию. Оперировал врач 4-й больницы Александр Валерьевич Романович, сын того самого Романовича, который долгое время руководил 4-й больницей. Долго сомневался доктор, делать операцию или нет. У меня же три инфаркта было, он боялся меня угробить прямо на столе! Но тем не менее взялся за скальпель. И я благодарен ему до конца жизни. И благодарен всем докторам, которые лечили мои болячки…

Вообще, в моей жизни были четыре суперхирурга: Александр Валерьевич Романович, кардиолог Вячеслав Алексеевич Янушко из РНПЦ «Кардиология», онкологи Олег Суконко и Сергей Красный. До сих пор помню их руки!

Я насчитал в своем организме 32 дырки, которые мне сделали хирурги. Это больше, чем патронов в автоматном рожке!

Я говорил доктору, когда он сомневался: «Режьте, потому что хочу пожить еще немного!» А он отвечает: «Николай Иванович, это под мостом режут, а мы оперируем!»

Тяжелейшая, кстати, операция была…

**– Долго восстанавливались?**

– Зимой сделали, а летом уже поехал на дачу, в грибы пошел. Так что все нормально!

Мне вообще в жизни повезло: рядом со мной всегда были замечательные люди, с которыми было приятно работать и просто находиться рядом. Я благодарен каждому из них…

**Марина КОКТЫШ.**



### ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА

Николай Лапатик родился в 1946 году.

Генерал-майор милиции.

Всю милицейскую жизнь занимался оперативной работой.

Один из лучших профессиональных сыщиков в Беларуси.

Последняя должность в МВД – начальник Главного управления криминальной милиции, в трудовой книжке – профессор Академии МВД.

Женат. С супругой Валентиной Васильевной познакомился в вечерней школе – сидели за одной партой.

«*Мы каждый день и каждую минуту вместе*, – говорит Николай Иванович. – *Когда на пенсию ушел, как будто второй раз женился! Раньше было как: работа, командировка, пришел, поел, ушел. А вот когда уже стали каждую минутку друг с другом проводить… Не шучу: будто второй раз женился! Это для многих серьезное испытание – все время быть вместе. Кстати, у нас с Валентиной Васильевной уже 43 года совместной жизни! И я даже по шагам определяю, в каком она сегодня настроении…*»

В свое время широкий общественный резонанс вызвала новость о том, что в ноябре 2000 года Николай Лапатик написал на имя министра внутренних дел Владимира Наумова рапорт под грифом «*Сов.секретно*», в котором лаконично излагалось, кому и когда Виктор Шейман дал указание уничтожить Юрия Захаренко, Виктора Гончара и Анатолия Красовского.

Сегодня на вопросы о громких исчезновениях Николай Иванович отвечает так: «*У меня столько серьезных операций было, и все под очень длительным наркозом. А наркоз – он плохо на организм влияет. Поэтому все, что знал, – давно забыл…*»

КАМПЕТЭНТНА

## Сяргей ДОНДЗІК:
# «За вертыкальнымі паркоўкамі – будучыня»

*Начальнік аддзела тавараў народнага спажывання завода «Магілёўліфтмаш» распавёў «Народнай Волі» пра новую распрацоўку прадпрыемства.*

Вертыкальныя шматузроўневыя паркоўкі ствараюць на Магілёўскім ліфтабудаўнічым заводзе, і першая ўжо працуе на тэрыторыі прадпрыемства.

Натуральна, прываблівае эканомія: на двух парковачных месцах могуць змясціцца 12 машын. Хаця сама паркоўка не такая і танная. Паводле інфармацыі вытворцаў, кошт такой паркоўкі складае каля 85 тысяч долараў, але асобна яшчэ аплачваецца дах. Калі сюды дадаць затраты на транспарціроўку, выраб фундаменту і мантаж канструкцыі, то паркоўка абыдзецца прыкладна ў 120 тысяч «зялёных».

Ёсць яшчэ ліфтавыя паркоўкі, якія мы зараз таксама будуем: на месцы для трох машын можа змясціцца 26 аўтамабіляў. А можна зрабіць так, што і 50 змесцяцца.

**– Ці карыстаюцца попытам такія паркоўкі?**

– Мы не так даўно займаемся гэтымі распрацоўкамі, але заказчыкі цікавяцца. Адзінае, што некаторых спыняе, дык гэта тое, што ў нас у краіне пакуль не гатова нарматыўная база на эксплуатацыю такіх паркоўак. І да гэтага часу ідзе дыскусія з нагоды таго, куды адносіць вертыкальныя паркоўкі: да будынкаў ці механізмаў?



– Увогуле, гэты праект ужо даволі стары, – кажа **Сяргей Дондзік**. – Першую падобную паркоўку яшчэ 100 гадоў таму ў Чыкага пабудавалі, таму мы, як кажуць, Амерыку не адкрылі. Іншая справа, што зараз мы ўсё зрабілі на больш высокім тэхнічным узроўні, з іншымі вузламі бяспекі.

Увогуле, лідары ў распрацоўцы вертыкальных паркоўак – карэйцы. Зямля становіцца ўсё даражэйшая, таму выкарыстоўваюць яе з максімальнай эфектыўнасцю.

**– Вертыкальная паркоўка – яна арэльнага тыпу?**

– Так, больш правільна яе называць ротарнай. Яе габарыты прыкладна 5 на 6 метраў, у вышыню – 12–13 метраў.

**– Колькі паркоўак ужо выпусціла ваша прадпрыемства?**

– Дзве. Адну мы ўсталявалі ля свайго філіяла, другую зманціравалі ў Мінску па заказе Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта. Ведаю, што ў сталіцы яе даўно ўжо паставілі, але не эксплуатуюць, бо ніяк аб'ект не могуць здаць.

Наколькі вядома, зараз вядуцца перамовы з гэтай нагоды з расійскім і ізраільскім бізнесам.

**– Якія перспектывы ў вертыкальных паркоўак?**

– Вы ж самі бачыце, што робіцца ў нашых гарадскіх дварах і на вуліцах, таму я лічу, што за гэтым праектам – будучыня.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СВЕЦКАЕ ЖЫЦЦЁ

# З кім Павел Латушка станчыць вальс?

*14 снежня ў Мінску ўпершыню адбудзецца дабрачынны Венскі баль у адпаведнасці з устаноўленымі ЮНЕСКА крытэрыямі. Арганізатарамі балю выступаюць кампанія А1 і Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Мерапрыемства пройдзе пад патранатам Пасольства Аўстрыі ў Беларусі.*

«Венскі баль з А1 у Купалаўскім» працягне традыцыю правядзення знакамітых венскіх баляў у розных гарадах Еўропы: цяпер да іх ліку далучыцца і Мінск. Мерапрыемства стане адраджэннем звычаю правядзення баляў ў гістарычна звязаным з імі месцы Мінска і ў той жа час дапаможа жыхарам горада далучыцца да бальных традыцый Вены.

«*Кампанія А1 заўсёды бачыла сваю місію ў тым, каб усталёўваць сувязь паміж людзьмі – на самых розных узроўнях і ў самых розных сэнсах: ад выключна тэхнічных аспектаў да актыўнай міжнароднай культурнай камунікацыі. Менавіта таму мы сумесна з нашымі партнёрамі вырашылі ў гэтым годзе пачаць традыцыю правядзення ў Мінску дабрачынных венскіх баляў. Гэта адзін з самых вядомых і самых прыгожых сімвалаў сталіцы Аўстрыі*», – адзначыў намеснік генеральнага дырэктара кампаніі А1 па лічбавых платформах і кантэнце **Антон Бладзік.**

Месцам правядзення Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы абраны невыпадкова: будынак, дзе сёння размяшчаецца Купалаўскі тэатр, прымаў падобныя публічныя мерапрыемствы яшчэ 130 гадоў таму. Такім чынам, правядзенне «Венскага балю з А1 у Купалаўскім» стане свайго роду адраджэннем бальных традыцый Мінска.

«*Купалаўскі тэатр ганарыцца сваёй гісторыяй старэйшага тэатра Беларусі. У гэтым годзе мы адзначаем свой 100-ы сезон, і нам вельмі прыемна, што ў час святкавання свайго векавога юбілею мы можам не толькі згадваць даўнія традыцыі, але і з дапамогай нашых партнёраў вярнуць адну з іх у родныя сцены*», – адзначыў генеральны дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы **Павел Латушка**.

Традыцыя правядзення венскіх баляў існавала ўжо ў першай палове XIX стагоддзя, калі Вена была сталіцай Аўстрыйскай, а пасля Аўстра-Венгерскай імперыі і славілася балямі пры двары дынастыі Габсбургаў. У сучаснай гісторыі венскія балі на чале з Венскім оперным балем праводзяцца пачынаючы з 1956 года. ЮНЕСКА ўнесла іх у спіс нематэрыяльнай спадчыны і зафіксавала крытэрыі, якім павінны адпавядаць баль, каб мець права называцца венскім.

«*Беларусь і Аўстрыю звязвае працяглае і прадуктыўнае супрацоўніцтва ў палітыцы, эканоміцы і культуры. Прыемна, што гэта партнёрства існуе не толькі ў выглядзе сухіх лічбаў і статыстыкі, але і праяўляе сябе ў выглядзе такіх яскравых мерапрыемстваў, як надыходзячы баль. І беларусы, і аўстрыйцы падзяляюць любоў да вытанчанага танца. Бальныя традыцыі нашых краін уяўляюць сабой частку шырокай і разнастайнай пан'еўрапейскай культуры. Спадзяюся, баль у Купалаўскім стане знакавай падзеяй у культурным календары Мінска. Баль аб'яднае Беларусь і Аўстрыю і запомніцца яго ўдзельнікам мноствам радасных момантаў. Бальны вечар – гэта прыгожае супрацоўніцтва Беларусі і Аўстрыі пры дапамозе вытанчанасці і стылю. Мая задача як пасла Аўстрыі ў Мінску – даць гасцям свята магчымасць адчуць унікальную атмасферу венскага бальнага сезона*», – азднача пасол Аўстрыі ў Беларусі **Алаізія Вёргетэр**.




Павел Латушка, Антон Бладзік і Алаізія Вёргетэр.

Венскі баль будзе праведзены ў адпаведнасці з усімі патрабаваннямі ЮНЕСКА: з дапамогай Пасольства Аўстрыі ў Беларусі да падрыхтоўкі мерапрыемства прыцягнуты аўтарытэтныя аўстрыйскія эксперты. Яны акажуць кансультацыйную падтрымку і дапамогуць у рашэнні галоўнай задачы – вызначэнні і падрыхтоўцы дэбютантаў: юнакоў і дзяўчат, якім, згодна з традыцыяй венскіх баляў, належыць адкрыць праграму масавым выкананнем паланэза.

Адной з адметных рыс венскіх баляў з'яўляецца дабрачынны характар гэтых мерапрыемстваў. Не стане выключэннем і «Венскі баль з А1 у Купалаўскім»: 50% сродкаў ад продажу білетаў на яго будуць накіраваны на дапамогу праекта «SOS-дзіцячыя вёскі Беларусь» і яго падапечным – дзецям, якія засталіся без апекі бацькоў ці рызыкуюць страціць яе з-за неспрыяльных сацыяльных фактараў.

Квіткі на «Венскі баль з А1 у Купалаўскім» паступяць у продаж на пачатку лістапада.

**Галіна РУТ.**

ДАРЭЧЫ

## Для балю – строгі дрэс-код!

*Прыём заявак для тых, хто жадае стаць дэбютантам балю, працягнецца па 16 кастрычніка.*

Магчымасць стаць дэбютантам маюць незамужнія дзяўчаты ва ўзросце ад 16 да 23 гадоў і нежанатыя маладыя людзі ва ўзросце ад 18 да 26 гадоў, якія дагэтуль ніколі не ўдзельнічалі ў балях. Удзел у балі для дэбютантаў, у адрозненне ад іншых гасцей, з'яўляецца бясплатным.

Прэтэндэнтам пажадана мець хаця б базавую танцавальную падрыхтоўку, быць дасведчанымі ў правілах этыкету і здольнымі падтрымаць нязмушаную свецкую размову. Пры гэтым пазмагацца за ўдачу можа кожны: для гэтага ў перыяд з 2 па 16 кастрычніка дастаткова запоўніць адпаведную анкету.

200 лепшых кандыдатаў будуць запрошаны на вочны кастынг, на якім члены бальнага камітэта абяруць 20 пар дэбютантаў.

Важным патрабаваннем да дэбютантаў, акрамя наведвання рэпетыцый, з'яўляецца дрэс-код. Ён абавязковы для ўсіх венскіх баляў і ўключае бальную сукенку чыста белага колеру без пышнай спадніцы, белыя пальчаткі і белыя закрытыя туфлі для дзяўчат і чорны фрак або парадную ўніформу, белыя пальчаткі і чорныя лакіраваныя туфлі для маладых людзей.

